У нумары: „Я ЧАРУ П'Ю ЖЫЦЦЯ" — У ДОМЕ КАСТУСЯ — АБ „ГРАМАДЗЕ"


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.

№ 26 (487) | ГОД X | 27 ЧЭРВЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.







НЯКЕПСКАЯ ЗАРПЛАТА

## ПРА МАГЧЫМАСЦІ

Праўду кажучы, толькі цяпер адкрыліся сапраўдныя магчымасці для развіцця сельскай гаспадаркі на Бельшчыне. **Тут найбольшым рэзервам кармоў з'яўляюцца лугі і пашы.** У Грыгораўцах пачынаюць цяпер цаніць кожны метр лугавой травы, бо лепшая яна, буйнейшая. На яе буйнасць дабрадзейны ўплыў мае меліярацыя і загаспадараванне забалочаных калісьці і здзічэлых купяністых абшараў.

Значыць, меліярацыя найважнейшая!

На наступную пяцігодку прадугледжаны значна большыя сумы грошай на меліярацыю ў Бельскім павеце — штосьці каля семдзесят мільёнаў злотых.

Як дагэтуль рост пагалоўя быдла даволі слабы. Прычынай таго ёсць факт малога зацікаўлення гаспадароў справай рацыянальнага, ашчаднага выкарыстання зялёных кармоў. У першую чаргу патрэбны сіласы, якія дазваляюць рабіць запасы зялёных кармоў вельмі карысных узіму. Размах гадоўлі залежыць ад мажлівасцей зімовых запасаў, ды калі тыя запасы яшчэ добрай якасці, гадоўля дае канкрэтны даход нават у месяцы лютым — каровы даюць малако і грошы за малако. Але не можа быць шмат малака, калі маем мала сіласаў. У 1960 годзе налічана ўсяго 152 сіласныя ямы, а ў мінулым годзе штосьці каля тысячы. Таму нічога дзіўнага, што павятовыя ўлады асабліва нацэліліся цяпер удвая павялічыць тэмп будовы сіласных ям. І тым гаспадарам, якія будуюць іх, прызнаецца патрэбныя прыдзелы будаўнічых матэрыялаў, перад усім, цэменту, а таксама і другія палёгкі.

Апошнім часам у Лубіне і Грыгораўцах адкрыта новыя ветэрынарныя пункты лячэння быдла, намечана будова ветэрынарных лячэбніц у Орлі і Храбалах.

Апрача прасторных лугоў і паш на Бельшчыне ёсць шмат добрай зямлі. Аднак гэта не

(Працяг на стар. 5)



Перад экзаменамі.

УВАГА БЫЛЫЯ ГРАМАДАЎЦЫ І ІХ СЕМ'І

## ЗБІРАЕМ ЗВЕСТКІ АБ ГРАМАДЗЕ І ГРАМАДАЎЦАХ

Шырокую дзейнасць вяла Беларуская сялянска-работніцкая Грамада на Беласточчыне. Тут адбываліся грамадаўскія з'езды і мітынгі, выступалі грамадаўскія паслы, бурна развіваліся гурткі Грамады. Аднак усё яшчэ гэтае пытанне мала вывучана, усё яшчэ замала ведаем мы аб дзейнасці гэтай рэвалюцыйнай арганізацыі на нашай зямлі.

Ва ўстанаўленні гісторыі Грамады на Беласточчыне і людзях Грамады шмат маглі б дапамагчы былыя грамадаўцы і іх сем'і. Таму сектар гісторыі партыі Ваяводскага камітэта ПАРП і рэдакцыя «Нівы» звяртаюцца да нашых чытачоў з просьбай дапамагчы ўстанавіць адрасы былых членаў Грамады.

Звесткі просім прысылаць у нашу рэдакцыю, або на адрас ВК ПАРП (KW PZPR w Białymstoku. Referat Historii Partii).

БГКТ У БЕЛАСТОКУ

## БОЛЬШ АБ ДРУГІМ НАПРАМКУ

У 1964/65 навучальным годзе ва ўсіх **дваццаці дзевяці** беластоцкіх сярэдніх школах вучылася каля дзевяцісот вучняў з тых вёсак і мястэчкаў, дзе ў мясцовых школах навучаецца прадмет беларускай мовы.

Дык вось, у Беластоку вучыцца шмат нашай моладзі.

На апошнім З'ездзе БГКТ была высунута і прынята пастанова, якая абавязвае ГП БГКТ рабіць старанні аб увядзенні прадмета беларускай мовы ў Сакольскім агульнаадукацыйным ліцэі. Але той, хто высунуў гэту справу, відаць, нават не пацікавіўся, колькі вучыцца ў ліцэі вучняў хаця б з тых вёсак, дзе навучаецца ў мясцовых школах беларуская мова. Аказваецца, такіх вучняў налічваецца раптам 8 асоб (патрэбнае мінімум — 10 асоб). Гаворачы аб гэтых васьмі асобах, трэба ўзяць пад увагу і той надта істотны факт, што ў Сакольскім павеце ў сярэднім пятая частка бацькоў вучняў школ з беларускай мовай **не хоча**, каб іх дзеці хадзілі на ўрокі роднай мовы — і не ходзяць яны (гэтаксама ў Беластоцкім і Сямяціцкім паветах).

Вёскі са школамі з беларускай мовай знаходзяцца амаль цалкам у раёне Крынак і Крушынян. Адсюль, часта, бліжэй і зручней да Беластока, чым да далёкай павятовай Саколкі, да яе ліцэя без перспектыў на месца ў малым інтэрнаце. Прытым, міграцыя мясцовага насельніцтва ў ваяводскі цэнтр да таго вялікая ў гэтых аколіцах, што на беластоцкіх Петрашах ці Антанюку існуюць амаль цэлыя вулічкі перавезеных хат аднавяскоўцаў. (З'ява вартая асобнай апрацоўкі ў этнаграфічным аспекце — элементы мовы, звычаяў, матэрыяльнай культуры).

Карацей кажучы, трэба сумнявацца, ці сітуацыя ў Сакольскім ліцэі зменіцца так, каб можна было думаць аб рэалізацыі гэтай, не надта шчаслівай, пастановы З'езда. У мясцовым Тэхнікуме вясковага будаўніцтва ўсяго двух вучняў з вёсак, дзе навучаецца ў школах беларуская мова (Піражкі, Кнышэвічы). Лепшыя перспектывы ў Рамесна-будаўнічай школе, дзе можна далічыцца 16 асоб, якія ведаюць мову і літаратуру. Будова вялікага інтэрната для гэтай школы дае на-

(Працяг на стар. 5)

Уладзімір Дубоўка

## Зноў вас пабачыў...

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые.

Ціха гамоніць і вецце, і лісце,
як гаманіла калісьці, калісьці...

Вашы вяршыні кранаў я рукою,
ў вашых шатрах я шукаў супакою.

Нас над зямлёй вы ўзнасілі высока,
нас, на прадвесні, паілі вы сокам,

каб шанавалі ад шчырага сэрца
тую зямлю, ад якой ён бярэцца.

Гэту пашану ніколі не трaціў,
а узмацняў яе шчыраю працай.

Зноў вас пабачыў, бярозы старыя,
ваша утульнасць ізноў мяне крые...



Дом Культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку ў дзень адкрыцця. На стар. 3 фотарэпартаж з урачыстасці адкрыцця. Фота Г. Рагазінскі

# У ДОМЕ КАСТУСЯ

**Гарадок, 6 чэрвеня, 1965 г. Фінал высакароднага грамадскага пачыну — урачыстае адкрыццё Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага. Прыгожы, добра абсталяваны культурны аб'ект — гордасць гарадчан — пабудаваны пры выдатнай дапамозе мясцовага насельніцтва. Будзе служыць Гарадку і цэлай аколіцы. Будзе ўшаноўваць імя слаўнага сына Беластоцкай зямлі, выдатнага правадыра студзеньскага паўстання, палымянага беларускага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага. А гэта імя забавязвае.**

**Наш фотарэпартаж прысвечаны ўрачыстасці адкрыцця Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку.**

Здымкі зрабіў **ГЕНРЫХ РАГАЗІНСКІ.**



**Наглядзячы на дрэнную пагоду на мітынг прысвечаны адкрыццю Дома сабралася шмат людзей.**



**З прамовай да сабраўшыхся выступіў пасол Беластоцкай зямлі сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Віха. Ён жа і адкрыў Дом.**



**Госці на чале з сакратаром ЦК ПАРП Ул. Віхам аглядаюць кавярню Дома.**



**Ля скульптурнага бюста Кастуся Каліноўскага, які ўстаноўлены ў фае Дома.**



**Прэзідыум урачыстага пасяджэння. Сярод гасцей: сакратар ЦК ПАРП Ул. Віха; сакратар ВК ПАРП С. Рубчэўскі; старшыня Камітэта будовы помніка К. Каліноўскаму, пасол С. Юхнвіцкі; дырэктар дэпартамента Міністэрства культуры Ч. Калужны; намеснік старшыні ВРН Э. Шчапанскі і інш.**



**Удзельнікі ўрачыстага пасяджэння былі адначасова і першымі наведвальнікамі прыгожай залы (на 208 месц) панарамнага кіно, са сцэнай і на мастацкія выступленні. Месц для ўсіх не хапіла.**



**Выступае дырэктар дэпартамента Міністэрства культуры Ч Калужны. Ён перадаў для Дома прыгожы падарунак — тэлевізар.**

**Да 40-годдзя БСР Грамады**

# У АБАРОНЕ ЭКСПЛУАТУЕМЫХ І ПРЫГНЕЧАНЫХ

Другія выбары ў сейм у 1922 годзе прынеслі вялікую перамогу для Блока нацыянальных меншасцей. Нават санацыйны эміграцыйны гісторык **Ул.** Побуг-Маліноўскі акрэсліў гэтыя выбары як «дзяржаўнае польскае паражэнне» на ўсходняй тэрыторыі Польшчы.

У склад новага сейма ўвайшло 11 паслоў прадстаўляючых беларусаў. Сярод іх знайшліся землякі Беласточчыны: настаўнік **Сяргей Баран** і сялянскі дзеяч з Гаркавіч, у Сакольскім павеце, **Павел Валошын.** Але ўжо ў 1923 годзе С. Баран быў арыштаваны. Разам з 44 левымі эсэрамі засеў ён на лаве падсудных у Акруговым Судзе ў Беластоку, які прыгаварыў яго на 4 гады цяжкага турэмнага зняволення.

Тым часам у сеймавым беларускім клубе нарасталі ідэйна-палітычныя супярэчнасці. Частка паслоў пачала схіляцца да супрацоўніцтва з камуністамі, як на форум сейма так і па-за сеймам. І вось 24 чэрвеня 1925 года ў гэтым клубе адбыўся раскол. Паслы **Браніслаў Тарашкевіч, Пётр Мятла, Сымон Рак-Міхайлоўскі і Павел Валошын** выступаючы з яго адначасна аб'явілі арганізаванне асобнага клуба пад назваю — Сеймавы клуб Беларускай сялянска - работніцкай Грамады.

Два месяцы потым па ініцыятыве ЦК КПП і КПЗБ адбылася ў Гданьску канферэнцыя прадстаўнікоў абедзвюх гэтых партый і беларускіх дзеячоў.

Прадметам гэтай сустрэчы былі праблемы звязаныя з дакладным адзначэннем праграмных прадпасылак новай сялянскай арганізацыі і акрэсленнем ролі камуністаў у яе арганізаванні а таксама кіраванні.

ЦК КПЗБ ад самага пачатку лічыў, што «Грамада не павінна быць аддзяленнем (філіялам) партыі, але масавай сялянскай арганізацыяй, якая аб'ядноўвае масы ў ходзе барацьбы. Грамада не павінна мець форм дакладна акрэсленай палітычнай партыі, але быць, хутчэй за ўсё, масавым сялянскім саюзам, унутры якога камуністы маглі б ствараць свае фракцыі і кіраваць гэтай арганізацыяй»

У сваёй праграме БСР Грамада высоўвае неабходнасць барацьбы за грамадскае вызваленне шляхам сацыяльнай рэвалюцыі рабочых і сялян, звяржэнне буржуазна-памешчыцкай улады, экспрапрыяцыя памешчыкаў і пераказанне зямлі сялянам, а таксама ўстанаўленне сялянска-рабочага ўрада.

Грамада заклікала таксама да барацьбы за нацыянальнае вызваленне праз самавызначэнне народаў, спалучэнне ўсіх беларускіх земляў. Высоўвала таксама такія дэмакратычныя лозунгі, як: нацыянальнай школы, аддзяленне дзяржавы ад царквы, памяншэнне паліцыі і дзяржаўнай адміністрацыі, знясенне смяротнай кары, абароны сацыяльна-бытавых дасягненняў рабочых і шмат іншых.

На падкрэсленне заслугоўвае той факт, што Грамада ўказвала на салідарнае выступленне беларускіх сялян з польскімі сялянамі і рабочымі.

Гэтыя правілы знаходзіліся ў афіцыяльным дакуменце — праграме Грамады. Выклікала яна жывое зацікаўленне сярод сялян, рабочых і інтэлігенцыі Беласточчыны. Праграма масава распаўсюджвалася і прапагавалася, асабліва ва ўсходніх раёнах ваяводства.

### УЛАДЫ ГРАМАДЫ

Статут акрэсліваў арганізацыйную структуру Грамады. Найвышэйшым яе органам быў Цэнтральны Камітэт, якога бягучаю дзейнасцю кіравала прэзідыум і сакратарыят. Ва ўсіх гэтых звеннях актыўна ўдзельнічаў Павел Валошын.

Пад Цэнтральны Камітэт, яго прэзідыум і сакратарыят падпарадкоўваліся павятовыя камітэты Грамады, павятовым камітэтам — гарадскія камітэты, а гэтым — так званыя гурткі. У граніцах нашага Беластоцкага ваяводства дзейнічалі павятовыя камітэты гэтай арганізацыі ў Бельску Пад-

(Працяг на стар. 4)

